У Беларусі стартавала прэзідэнцкая гонка.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 39 (4497)**

15 мая 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.





**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЛІЦ

## Як Вы ставіцеся да правядзення прэзідэнцкіх выбараў падчас пандэміі?

### Вадзім САРАНЧУКОЎ, кіраўнік Гродзенскай абласной арганізацыі Партыі БНФ:

– Менавіта наша арганізацыя ўнесла прапанову на разгляд сойма партыі аб тым, каб заклікаць прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду не падаваць дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўных груп і запатрабаваць ад Палаты прадстаўнікоў перанесці дату выбараў у сувязі з пандэміяй каранавіруса. І такое рашэнне, як вядома, сойм прыняў.

Нашы аргументы простыя: нельга ініцыяваць камунікацыю людзей ва ўмовах эпідэміі. Сёння неабходна ўсім максімальна дыстанцыравацца, а не хадзіць па кватэрах і збіраць подпісы, запрашаць людзей на пікеты і сходы.

### Наталля СТАНКЕВІЧ, кіраўнік Ашмянскай раённай арганізацыі Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь»:

– На мой погляд, няма розніцы, калі праводзіць выбары. Мы што, цяпер не ходзім на працу? Ды і што ў нас такое здарылася? Кожны чалавек можа аддаць свой голас за таго ці іншага кандыдата ў самых розных умовах і гэтым выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю.

### Ірына ДАВІДОВІЧ, жыхарка Іўя, сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі:

– Выбары прэзідэнта варта перанесці на больш бяспечны час. *(Але гэта будзе парушэннем Канстытуцыі. – **Рэд.**)* Хаця ўлады будуць спяшацца іх правесці, бо эканамічная сітуацыя ў краіне можа пагоршыцца, а гэта не на руку дзеючаму прэзідэнту.

### Віктар МАРЧЫК (Слонім), каардынатар грамадскага аб'яднання прадпрымальнікаў «Перспектыва»:

– Думаю, і не для кога гэта не сакрэт, што ў Беларусі выбараў, як належыць разумець у класічным значэнні, няма. А калі неўзабаве ў сувязі з палітычнай кампаніяй распачнуцца масавыя мерапрыемствы, то можа адбыцца эпідэмічная катастрофа. У сённяшняй сітуацыі перш за ўсё трэба думаць пра людзей, пра іх здароўе.

### Алег ГАЙДУКЕВІЧ, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь:

– Паводле Канстытуцыі, у нас толькі адна падстава для пераносу выбараў – гэта надзвычайнае становішча. Сёння падстаў для ўвядзення надзвычайнага становішча няма, ды і надзвычайнае становішча вельмі небяспечна для краіны.

Гэта значыць выбары мы павінны правесці ў жніўні! 9-га ці 30-га – вялікай розніцы няма.

Калі кандыдат не гатовы да 9 жніўня, ён не будзе гатовы ні да 30-га жніўня, ні да верасня. Да выбараў рыхтуюцца загадзя, а не за два дні, збіраючы каманду ў "Фэйсбуку". Гэта проста несур'ёзна!

Я гатовы да выбараў, мы закупілі тысячы масак, пальчатак і будзем выконваць усе меры засцярогі падчас збору подпісаў.

Тыя, хто цяпер уцёк з выбараў, яны збеглі з выбараў і ў 2015 годзе, без усялякай пандэміі.

Слабы заўсёды знойдзе апраўданне сваёй слабасці. А моцны будзе змагацца. Мы ідзём на выбары і будзем змагацца за перамогу!

### Алена ДМУХАЙЛА, сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў:

– Я палітычных каментарыяў даваць не буду, думала, у вас пытанне юрыдычнае, па тэрмінах. Ізноў жа, паводле Канстытуцыі выбары павінны быць прызначаны, і яны прызначаны. А падстаў для іх непрызначэння няма. І вы гэта добра ведаеце.

**Міхал КАРНЕВІЧ,**
**Марына КОКТЫШ.**

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## «Народная Воля» хоча працягнуць руку тым, хто за кратамі...

Сумная статыстыка: дзясяткі тысяч нашых грамадзян гадамі пакутуюць за кратамі. Вядома ж, усе яны мараць аб адным: хутчэй бы выйсці на волю! Гэтага жадае ім і газета «Народная Воля». І калі кожны яе нумар будзе трапляць у іх рукі – набліжэнне свабоды стане рэальнасцю. Разумнае друкаванае слова здольна ўзняць дух зняволеных людзей, прыдаць ім веру ў лепшую будучыню.

Была б у рэдакцыі магчымасць аформіць бясплатную падпіску на «Народную Волю» кожнаму, хто адбывае пакаранне ў турме, калоніі ці ў месцах вызначанага пасялення, – абавязкова зрабілі б!

На жаль, цяжкае фінансавае становішча не спрыяе гэтаму. Таму мы звяртаемся да бацькоў, родзічаў, сяброў, былых саслужыўцаў тых, хто па той ці іншай прычыне апынуўся ў зняволенні: падпішыце іх на газету «Народная Воля»!

Кошт месячнага камплекту – усяго 8 рублёў 50 капеек. Адшкадуйце такую невялічкую суму – і, паверце, ваша дабрачыннасць адгукнецца шчырай удзячнасцю тых, хто з нецярпеннем чакае свабоды. «Народная Воля» наблізіць гэты час!

Заўважым: закон дазваляе зняволеным атрымліваць газеты, якія афіцыйна зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі і без абмежаванняў выходзяць у нашай краіне. «Народная Воля» – з ліку такіх. І яе можаце выпісаць чалавеку, які па волі лёсу апынуўся за кратамі, на любы тэрмін – на месяц, два, а пры магчымасці і да канца года (ужо пачалася падпіска і на ліпень–снежань). Можаце ўявіць, з якім задавальненнем той, хто за кратамі, будзе чытаць кожны матэрыял з волі пра тое, што адбываецца па-за кратамі, як жывуць многія са знаёмых, землякоў.

Аформіць падпіску для зняволеных можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваным пункце «Белсаюздруку».

Ёсць таксама магчымасць аформіць падпіску на «Народную Волю», не выходзячы з дому. Для гэтага трэба на сайце **belpressa.by запоўніць падпісны бланк і зрабіць аплату праз сістэму Webpay** банкаўскай карткай ці праз сістэму **«Расчет» (АРІП)**. У апошнім выпадку неабходна выбраць пункт **«Система «Расчет» (ЕРИП)» – «СМИ» – «Н» – «Народная Воля» – «Подписка». Для аплаты ўвядзіце нумар рахунка, атрыманага на сайце belpressa.by. Зрабіце плацеж.**

**Працягнем руку тым, хто часова не з намі!**
**Наблізім іх свабоду!**

*Рэдакцыя газеты «Народная Воля».*

К СВЕДЕНИЮ

## Завтра уже будет поздно...

Если кто-то, переночевав, захочет завтра, в субботу, заявить о желании участвовать в президентской гонке и подать документы на регистрацию инициативной группы, то в Центральной избирательной комиссии скажут: «Проспал, дорогой». Это нужно было сделать не позднее 15 мая.

Регистрация инициативных групп и выдача их членам соответствующих удостоверений и подписных листов пройдет в пятидневный срок со дня подачи заявления о регистрации.

КАЛЕНДАРЬ

## Не позднее 18 мая узнаем, где нельзя будет собирать подписи

Календарь избирательной кампании расписан по дням, неделям, месяцам. Если кто-то думает, что устраивать пикеты с целью сбора подписей в поддержку того или иного претендента на пост президента можно будет в любом месте, то он ошибается.

Местные органы власти, руководствуясь законом о проведении массовых акций, четко определят, где можно будет устраивать пикеты, а где нет. Это станет известно не позднее 18 мая.

РЕБУС

## Все ли соберут по 100 тысяч подписей?

Даже в те годы, когда избирательная кампания проходила без всяких вирусных заболеваний, собрать 100 тысяч подписей в поддержку претендентов на президентский пост удавалось далеко не всем инициативным группам. Похоже на то, что нынче, когда эпидемическая ситуация довольно сложная, с поставленной задачей справится мало кто.

Сбор подписей избирателей в поддержку выдвижения кандидатов в Президенты Республики Беларусь пройдет с 21 мая по 19 июня включительно. По закону эта кампания должна начинаться за 80 дней и заканчиваться за 50 дней до выборов.

Проверка достоверности подписей избирателей в подписных листах, сданных членами инициативных групп, будет длиться десять дней, но закончится не позднее 29 июня.

НА ЗАМЕТКУ

## Чтобы не было проблем с финансами...

Понятно, для тех, кто ввязывается в президентскую гонку, головная боль – это финансы. Мало того, что необходимо иметь немаленькую сумму, так нужно еще соблюсти все требования Центризбиркома. Поспешишь с открытием специального аккумуляционного счета – можно попрощаться с желанием побороться за высшую должность в государстве.

Требуется определенная сумма денег для оплаты расходов и услуг, связанных со сбором подписей избирателей. Но лица, выдвигаемые кандидатами в Президенты Республики Беларусь, должны знать, что открыть специальный избирательный счет они смогут не раньше, чем в день регистрации инициативной группы.

В период предвыборной агитации также нужны деньги на различные расходы. И опять же – они должны аккумулироваться на специальном счете. Открытие его возможно со дня регистрации кандидата в Президенты Республики Беларусь.

ЭКОНОМИКА

## В первом квартале бюджет страны недополучил 350 миллионов рублей

Из-за падения объемов нефтепереработки и снижения экспорта калийных удобрений в бюджет Беларуси в первом квартале недопоступило около 350 миллионов рублей.

Об этом сообщил премьер-министр Беларуси **Сергей Румас** на очередном заседании Совмина.

SOS!

## Паводле звестак Міністэрства аховы здароўя, па стане на раніцу 14 мая ў Беларусі зафіксавана 26.772 выпадкі каранавіруса.

**Выздаравелі 8168 пацыентаў. За ўвесь час памёр 151 чалавек.**



| Дата | Агулам | Рост за дзень | Рост у % | Выздаравелі | Памерлыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 2.04 | **300** | | | 42 | 4 |
| 3.04 | **351** | +51 | +17% | | |
| 4.04 | **440** | +89 | +25% | 41 | 5 |
| 5.04 | **562** | +122 | +28% | 52 | 8 |
| 6.04 | **700** | +138 | +25% | 53 | 13 |
| 7.04 | **861** | +161 | +23% | 54 | 13 |
| 8.04 | **1066** | +205 | +24% | 77 | 13 |
| 9.04 | **1486** | +420 | +39% | 139 | 16 |
| 10.04 | **1981** | +495 | +33% | 169 | 19 |
| 11.04 | **2226** | +245 | +12% | 172 | 23 |
| 12.04 | **2578** | +352 | +16% | 203 | 26 |
| 13.04 | **2919** | +341 | +13% | 203 | 29 |
| 14.04 | **3281** | +362 | +12% | ? | 33 |
| 15.04 | **3728** | +447 | +14% | ? | 36 |
| 16.04 | **4204** | +476 | +13% | ? | 40 |
| 17.04 | **4779** | +575 | +14% | 342 | 42 |
| 18.04 | **5297** | +518 | +11% | 458 | 45 |
| 19.04 | **5807** | +510 | +10% | 494 | 47 |
| 20.04 | **6264** | +457 | +8% | 514 | 51 |
| 21.04 | **6723** | +459 | +7,3% | 577 | 55 |
| 22.04 | **7281** | +558 | +8,3% | 769 | 58 |
| 23.04 | **8022** | +741 | +10,1% | 938 | 60 |
| 24.04 | **8773** | +751 | +9,33% | 1120 | 63 |
| 25.04 | **9590** | +817 | +9,3% | 1573 | 67 |
| 26.04 | **10.463** | +873 | +9,4% | 1695 | 72 |
| 27.04 | **11.289** | +826 | +7,89% | 1740 | 75 |
| 28.04 | **12.208** | +919 | +8,14% | 1993 | 79 |
| 29.04 | **13.181** | +973 | +7,97% | 2072 | 84 |
| 30.04 | **14.027** | +846 | +6,41% | 2386 | 89 |
| 1.05 | **14.917** | +890 | +6,34% | 2918 | 93 |
| 2.05 | **15.828** | +911 | +6,1% | 3117 | 97 |
| 3.05 | **16.705** | +877 | +5,54% | 3196 | 99 |
| 4.05 | **17.489** | +784 | +4,6% | 3259 | 103 |
| 5.05 | **18.350** | +861 | +4,9% | 3771 | 107 |
| 6.05 | **19.255** | +905 | +4,9% | 4388 | 112 |
| 7.05 | **20.168** | +913 | +4,74% | 5067 | 116 |
| 8.05 | **21.101** | +933 | +4,63% | 5484 | 121 |
| 9.05 | **22.052** | +951 | +4,5% | 6050 | 126 |
| 10.05 | **22.973** | +921 | +4,18% | 6406 | 131 |
| 11.05 | **23.906** | +933 | +4,06% | 6531 | 135 |
| 12.05 | **24.873** | +967 | +4,04 | 6974 | 142 |
| 13.05 | **25.825** | +952 | +3,83% | 7711 | 146 |
| 14.05 | **26.772** | +947 | +3,67 | 8168 | 151 |

ЧУЛІ?

## У Беларусі перанясуць тэрміны ўступнай кампаніі

*Аб гэтым заявіў учора журналістам міністр адукацыі **Ігар Карпенка**.*

*Цэнтралізаванае тэсціраванне пачнецца з 25 чэрвеня, у той час як раней яно павінна было стартаваць 13 чэрвеня.*

*«У бліжэйшы час мы прадставім новы графік правядзення ЦТ. Цяпер усё яшчэ раз адпрацуем, уважліва паглядзім. Тое, што ЦТ пачнецца 25 чэрвеня, – гэта дакладна»,* – заявіў міністр.

*«Гэта не значыць, што ў нас не будзе запасу часу для таго, каб падрыхтавацца да пачатку новага навучальнага года. Якраз мы ўкладваемся ва ўсе тэрміны правядзення кампаніі, уключаючы момант падачы дакументаў, залічэнне ў вышэйшыя навучальныя ўстановы на бюджэт і платна, паступленне ў сярэднія спецыяльныя і прафесійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы»,* – падкрэсліў Ігар Карпенка.

Ён адзначыў, што тэсціраванне па найбольш масавых прадметах падзеляць на два дні. *«Рускую мову і матэматыку, на якія запісваецца найбольшая колькасць абітурыентаў, падзелім на два дні. Гэта будзе такая навацыя, але гэта не значыць, што тэст першага дня будзе такім жа і на другі дзень. У нас па кожным прадмеце створана даволі вялікая база, і кожны раз дзяржкамісія метадам камп'ютарнага адбору прадаставіць адпаведны тэст. Усе тэсты створаны па праграме агульнай сярэдняй адукацыі. Як заўсёды, патрэбны веды і падрыхтаванасць абітурыентаў»,* – сказаў Ігар Карпенка.

Міністр таксама расказаў, што ў гэтым годзе лічбы прыёму крыху павялічаны ў асноўным за кошт тэхнічных, тэхналагічных спецыяльнасцяў, медыцынскіх, фізкультурна-аздараўленчых. *«Такім чынам, мы прапануем крыху больш месцаў абітурыентам, чым у мінулым годзе. Крыху павялічаны набор і ў сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. А ў сістэме прафтэхадукацыі ідзе гнуткі набор. Мы можам лічбы скарэкціраваць»,* – адзначыў ён.

*(Паводле БЕЛТА.)*

НУ І НУ!

## Дапрагіналіся...

Вось амаль ужо трыццаць гадоў Беларусь, можна сказаць, поўзае на каленях перад Крамлём, а што ў выніку?

Учора Аляксандр Лукашэнка прыняў з дакладам старшыню ўрада Сяргея Румаса. І з чаго пачалася гаворка?

– Учора я атрымаў інфармацыю, што Расія прадае прыродны газ у Еўропе ў гэты няпросты час да 70 долараў (65–68), але ніяк не 127 долараў, як для Беларусі, – сказаў А.Лукашэнка. І запытаўся ў Румаса: – На што мы можам разлічваць у будучым?

Вядома ж, ніхто не адкажа на гэтае пытанне лепш, чым сам Аляксандр Рыгоравіч. Здаецца, ужо ўсім зразумела, што "старэйшы брат" абувае "малодшага" па поўнай праграме. Дык можа, хопіць нам, беларусам, прагінацца?

**Аркадзь МОЎЧАН.**

АКЦЕНТЫ

# Виктор Бабарико рассказал, что думает о независимости Беларуси

*Бывший председатель правления ОАО «Белгазпромбанк» рассказал, почему решил идти в президенты.*

«Никогда не думал, что буду писать такой текст, и надеялся, что оставаться на позициях экономического аналитика и не заниматься политикой мне удастся до наступления новых времен в нашей стране, – *написал он в «Фейсбуке»*. – Но никогда не говори «никогда»! Итак, я буду выдвигать свою кандидатуру на выборах 9 августа.

Я не наивный человек и прекрасно понимаю те граничные условия и правила игры, которые сформированы на этом поле в Беларуси, а самое главное – финальную часть этого «действа», которая была сформулирована еще в эпоху Сталина: неважно, как голосуют, важно, как считают.

Однако, зная все это, я верю в ограниченность любой неэффективной системы, в возможности, которые предоставляют новые инструменты на базе современных технологий, а самое главное – я очень боюсь, что это последний шанс хоть каких-то выборов в независимой Беларуси. И я посчитал для себя недопустимым и стыдным жалеть о том, что не попытался что-то изменить, оправдывая себя тем, что изменить нельзя ничего.

Если можно честно описать ту ситуацию, в которой мы находимся, если верен анализ, почему мы дошли до этой точки, если можно предложить вариант решения проблемы, то должно и принять ответственность за реализацию этого варианта».

*Пару дней назад Бабарико обозначил свою позицию по поводу независимости страны.*

«В предыдущих постах я не делал акцента на моей позиции по отношению к сохранению Беларусью статуса самостоятельного государства, предполагая, что это совершенно очевидно. Как сказал один мой очень эффективный помощник: «Не думаю, что многие бы согласились поменять место в структуре Газпрома на туманную и, главное, небезопасную перспективу без очень сильной мотивации».

И он прав – только любовь к нашей Беларуси, вера в ее счастливое независимое самостоятельное будущее и надежда на то, что у меня хватит знаний и умений эффективно этому способствовать, определили мое решение!»

ПОИМЕННО

# Кто собрался в президенты?

*Вчера Центризбирком опубликовал сведения о лицах, уже подавших заявления о регистрации инициативных групп по выдвижению их в кандидаты на пост президента Республики Беларусь.*

*На тот момент, когда «Народная Воля» сдавалась в печать, список был еще неполным. Сегодня, 15 мая, последний день, когда можно подать заявление о регистрации инициативной группы.*

| № п/п | Дата подачи документов | Лицо, имеющее намерение выдвинуться кандидатом в Президенты | Год рождения | Должность (занятие), место работы (учебы) | Партийность | Место жительства | Руководитель инициативной группы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | 11.05.2020 | ЖЕЛЕЗНЯКОВА Анжелика Николаевна | 1967 | временно не работает | беспартийная | д. Климовичи, Минский р-н, Минская обл. | Железнякова Анжелика Николаевна |
| 2. | 11.05.2020 | МИЩЕНКО Вероника Евгеньевна | 1968 | индивидуальный предприниматель | беспартийная | д. Солоное, Жлобинский р-н, Гомельская обл. | Троцкий Валентин Иванович |
| 3. | 11.05.2020 | ГРЕЧИШНИКОВ Александр Валерьевич | 1976 | индивидуальный предприниматель | беспартийный | г. Минск | Гречишников Александр Валерьевич |
| 4. | 12.05.2020 | ГАНЦЕВИЧ Юрий Михайлович | 1976 | фермер, субъект агроэкотуризма усадьба «На воде» | беспартийный | аг. Поколюбичи, Гомельский р-н, Гомельская обл. | Солощук Татьяна Михайловна |
| 5. | 12.05.2020 | ЗЕЛКОВСКИЙ Виталий Валентинович | 1980 | инженер-дизайнер | беспартийный | г. Молодечно, Молодечненский р-н, Минская обл. | Зелковский Виталий Валентинович |
| 6. | 13.05.2020 | НИКОЛАЙЧИК Ольга Александровна | 1968 | временно не работает | беспартийная | г. Минск | Николайчик Ольга Александровна |
| 7. | 13.05.2020 | ХОТЕНКО Виктория Ивановна | 1978 | операционная санитарка, УЗ «МОДКБ» | беспартийная | г. Логойск, Логойский р-н, Минская обл. | Статкевич Николай Викторович |
| 8. | 13.05.2020 | КЛЕЩУК Игорь Иванович | 1979 | ремесленник | беспартийный | г. Минск | Фролов Валентин Сергеевич |
| 9. | 13.05.2020 | ФРОЛОВ Валентин Сергеевич | 1983 | индивидуальный предприниматель | беспартийный | аг. Калатичи, Глусский р-н, Могилевская обл. | Сапрыгина Ева Сергеевна |
| 10. | 13.05.2020 | ВИШНЯКОВА Антонина Ивановна | 1985 | раскройщик материалов, СЗАО «Отико» | беспартийная | г. Минск | Статкевич Николай Викторович |
| 11. | 14.05.2020 | ТИХАНОВСКИЙ Сергей Леонидович | 1978 | директор, ОДО «Студия Компас» | беспартийный | г. Гомель, Гомельская обл. | Тихановская Светлана Георгиевна |
| 12. | 14.05.2020 | ЛУКАШЕНКО Александр Григорьевич | 1954 | Президент Республики Беларусь | беспартийный | г. Минск | Орда Михаил Сергеевич |
| 13. | 14.05.2020 | НЕПОМНЯЩИХ Владимир Михайлович | 1952 | пенсионер | Объединенная гражданская партия | г. Гомель, Гомельская обл. | Непомнящих Владимир Михайлович |
| 14. | 14.05.2020 | ГАЙДУКЕВИЧ Олег Сергеевич | 1977 | депутат Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь | Либерально-демократическая партия | г. Минск | Чесалов Олег Юрьевич |
| 15. | 14.05.2020 | КИСЕЛЬ Наталья Алексеевна | 1969 | заместитель директора, ЧТУП «Кисель В.В.» | беспартийная | г. Минск | Штода Сергей Викторович |
| 16. | 14.05.2020 | АШИХМИНА Елена Ивановна | 1968 | помощник директора, ООО «Болсе», директор ООО «БелТехПодшипник» | беспартийная | г. Минск | Таберко Иван Иванович |
| 17. | 14.05.2020 | БЕРКУС Регина Робертовна | 1959 | пенсионер | беспартийная | г. Лида Лидский р-н, Гродненская обл. | Статкевич Николай Викторович |
| 18. | 14.05.2020 | ЯКУШКОВ Александр Владимирович | 1956 | пенсионер | беспартийный | г. Витебск, Витебская обл. | Статкевич Николай Викторович |
| 19. | 14.05.2020 | ДАВЫДОВА Елена Сергеевна | 1981 | врач-бактериолог, ГУ «Гомельский областной центр гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья», фельдшер выездной бригады скорой медицинской помощи, ГУЗ «Гомельская городская станция скорой медицинской помощи» | беспартийная | г. Гомель, Гомельская обл. | Статкевич Николай Викторович |
| 20. | 14.05.2020 | КУДРАВЕЦ Дмитрий Иванович | 1975 | машинист насосных установок, КУП «Жодинский водоканал» | беспартийный | г. Жодино, Минская обл. | Статкевич Николай Викторович |
| 21. | 14.05.2020 | ЗУЕВИЧ Алексей Иванович | 1970 | индивидуальный предприниматель | беспартийный | д. Санюки, Ельский р-н, Гомельская обл. | Статкевич Николай Викторович |
| 22. | 14.05.2020 | КАРАБАНОВ Петр Викторович | 1961 | глава фермерского хозяйства | беспартийный | д. Мормаль, Жлобинский р-н, Гомельская обл. | Статкевич Николай Викторович |
| 23. | 14.05.2020 | ШКОЛЬНИКОВ Александр Викторович | 1976 | безработный | беспартийный | г. Орша, Оршанский р-н, Витебская обл. | Статкевич Николай Викторович |

IX ПАРТРЭТЫ

# Хто атрымаў «суткі» за акцыю з труной?

Агулам на 18 сутак адміністрацыйнага арышту былі асуджаны **Даніла Лаўрэцкі** і **Ліза Пракопчык**, якія з'яўляюцца актывістамі так званага маладзёжнага блока.

8 мая маладыя людзі зладзілі акцыю з труной падчас генеральнай рэпетыцыі парада. Такім чынам яны хацелі звярнуць увагу на небяспеку наведвання масавых мерапрыемстваў у Дзень Перамогі ў Мінску.

У выніку Ліза Пракопчык атрымала 5 сутак адміністрацыйнага арышту, Даніла Лаўрэцкі – 13 сутак.

Што ўяўляе сабой маладзёжны блок? На сайце паведамляецца, што гэта *"аб'яднанне маладых актывістаў, мэтай якога з'яўляецца прыцягненне ўвагі да актуальных для беларускай моладзі праблем"*.

У прыватнасці, яны выступаюць за адмену закона аб адтэрміноўцы, за адмену прымусовага размеркавання выпускнікоў і паслабленні па артыкуле 328 КК, а таксама за празрыстасць працы парламента.

Што вядома пра тых актывістаў, якія апынуліся на "сутках"?

22-гадовы **Даніла ЛАЎРЭЦКІ** нарадзіўся і жыве ў Мінску. Скончыў Белдзяржуніверсітэт па спецыяльнасці "Міжнародны менеджмент", бакалаўр.

У студэнцкія гады стаў цікавіцца грамадскім жыццём, разам з аднадумцамі адрадзіў "Задзіночанне беларускіх студэнтаў". У 2018 годзе стаў сузаснавальнікам студэнцкай зніжкавай сістэмы Unicard. Індывідуальны прадпрымальнік. Брат Данілы Мікіта Лаўрэцкі – малады беларускі рэжысёр.

Падчас апошніх парламенцкіх выбараў балатаваўся ад Беларускай партыі "Зялёныя" ў Палату прадстаўнікоў па Купалаўскай акрузе №95 г.Мінска.

21-гадовая **Ліза ПРАКОПЧЫК** нарадзілася ў Магілёве, але зараз жыве і працуе ў сталіцы.

Пасля школы паступіла ў Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт на бюджэтную форму навучання. 19 сакавіка гэтага года Елізавета брала ўдзел у вулічнай акцыі, якая была арганізавана з мэтай прыцягнуць увагу кіраўніцтва ВНУ да неабходнасці ўвядзення каранціну і пераводу навучання на дыстанцыйную форму. Сама Елізавета ў знак нязгоды заклікала да байкоту заняткаў ва ўніверсітэце і да самаізаляцыі студэнтаў.

За пропускі заняткаў і невыкананне вучэбнай праграмы студэнтка была адлічана з 4-га курса.

*"Студэнтку адлічылі па сукупнасці акадэмічных прычын*, – заявіла затым рэктар Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта **Наталля Баранава**. – *Палітыкі ў яе выключэнні няма і быць не можа. Мы нікога не караем за палітычныя погляды"*.

Сёння Елізавета Пракопчык працуе ў адной са сталічных кампаній. Учора ноччу, дарэчы, яна ўжо выйшла на волю…

**Алесь ЗАБЛОЦКІ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Зміцер ЛУПАЧ: «18 мая сам пайду ў ізалятар…»



Нагадаем: 11 мая Глыбоцкі раённы суд прызнаў **Зміцера Лупача** вінаватым у парушэнні двух артыкулаў Адміністрацыйнага кодэкса. За сюжэт на тэлеканале "Белсат" пра дрэнны рамонт Глыбоцкага фізкультурна-аздараўленчага комплексу суддзя вынес штраф у памеры 45 базавых велічынь паводле ч.2 арт.22.9 КаАП (незаконны выраб і распаўсюджванне прадукцыі СМІ). А за сустрэчу з блогерам Сяргеем Ціханоўскім Зміцера абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і пакаралі арыштам на 10 сутак.

Пасля судовага працэсу 53-гадовы журналіст-фрылансер З.Лупач, які на пазаштатных умовах супрацоўнічае з тэлеканалам "Белсат", трапіў у рэанімацыю мясцовай бальніцы. Тым не менш 18 мая яго адправяць адбываць пакаранне…

*"Родам я з Глыбоцкага раёна, пасля школы паступіў у Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію на факультэт "Аграхімія і глебазнаўства",* – распавядае пра сябе Зміцер Лупач. – *Скончыў яе, пасля чаго некалькі гадоў працаваў аграномам у гаспадарках Пінскага і Глыбоцкага раёнаў.*

*Але ў 1996 годзе, пасля таго як старшыня калгаса прымушаў мяне сабраць людзей на датэрміновае галасаванне, я звольніўся"*.

Пасля гэтага Лупач працаваў у Польшчы на будоўлі, вярнуўся дадому і займаўся сельскай гаспадаркай.

*"З журналістыкай упершыню сутыкнуўся, здаецца, у 2000 годзе, калі прапанавалі напісаць нейкі тэкст у мясцовую незалежную газету "Вольнае Глыбокае"*, – працягвае наш суразмоўца. – *А праз дзевяць гадоў я, Яраслаў Берніковіч і Тацццяна Смоткіна заснавалі рэкламную газету "Прэфект-інфо". На жаль, у 2014 годзе выданне закрылася"*.

Супрацоўніцтва Зміцера з тэлеканалам "Белсат" пачалося з 2012 года.

*"З аддзелам навін супрацоўнічаю як фрылансер ужо пяць гадоў*, – працягвае Лупач. – *Ужо нават і не памятаю, колькі агулам штрафаў далі за "незаконны выраб і распаўсюджванне прадукцыі СМІ", але пачынаючы з 2015 года мяне судзілі 22 разы.*

*Як вядома, апошнім разам далі на судзе 10 сутак арышту, пасля чаго і трапіў у бальніцу. Але гэта не адмяніла пакарання, таму 18 мая сам пайду ў ізалятар…"*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

# Андрэй СУСЛЯНКОЎ: «Некарэктна агучваць лічбы захварэлых на заводзе…»

*Намеснік генеральнага дырэктара па ідэалагічнай працы, кадрах і сацыяльным развіцці распавёў "Народнай Волі" пра тое, чаму некаторыя цэхі прадпрыемства былі вымушаны пайсці на канікулы.*

– З 1 па 11 мая і насамрэч зрабілі выхадныя, але зараз працуем па ранейшым шчыльным графіку, – *тлумачыць Андрэй Анатольевіч*. – Так што ўсе пытанні закрываюцца.

**– Але ж нехта працаваў?**

– Зборачныя цэхі і тэхнічныя службы. Падчас спынення вытворчасці якраз была магчымасць правесці нармальнае тэхнічнае абслугоўванне ліній.

**– А чаму зладзілі сабе такія канікулы? Паводле некаторай інфармацыі, гэта звязана з тым, што на заводзе з'явіліся захварэлыя на каранавірус…**

– На так званыя канікулы мы пайшлі па некалькіх прычынах. Па-першае, там было шмат святаў, а таму вырашылі даць людзям магчымасць адпачыць.

Па-другое, у гэтыя дні ў Расіі таксама не працавалі, а наша прадпрыемства шмат у чым звязана з расійскімі партнёрамі.

Як ужо казаў, на заводзе неабходна было таксама зрабіць прафілактычныя работы па тэхналагічным абслугоўванні.

І чацвёрты момант – гэта быў той самы адрэзак часу, калі працоўныя маглі ўмацаваць здароўе. Мы разумеем, што восенню чакаецца павелічэнне аб'ёмаў продажаў, неабходна будзе выконваць сённяшнія заказы, а таму працоўныя дні перанесены на восень.

**– Ці маеце статыстыку па захваральнасці на каранавірус на заводзе?**

– Скажу так: сітуацыя нармальная і знаходзіцца пад кантролем. Мы выконваем усе рэкамендацыі Міністэрства аховы здароўя, але, на мой погляд, зусім некарэктна агучваць нейкія лічбы па захварэлых.

Вы ж самі бачыце, што сёння адзін тэст пацвярджаецца, другі не пацвярджаецца, затым – ізноў пацвярджаецца… Таму тут ужо падлікамі павінна займацца адпаведнае медыцынскае ведамства. Калі чалавеку патрэбна ізаляцыя, то, значыць, так і трэба.

Але хачу адзначыць, што канікулы далі свой эфект – колькасць захварэлых на заводзе зменшылася.

**Віктар ШПАК.**

АКТУАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

# Дзе шукаць працу падчас пандэміі?

*Колькасць тых, хто звяртаецца ў гродзенскі Цэнтр занятасці насельніцтва ў пошуках працы, у перыяд пандэміі не павялічылася. А што прапануюць тым, хто апынуўся ў гэты няпросты час на вуліцы?*

"Народная Воля" прагартала на сайце Гродзенскага цэнтра занятасці аб'явы, якія абнаўляліся за апошні тыдзень. За гэты перыяд прапаноўваецца больш за 1100 працоўных месцаў.

Найбольш запатрабаваны ў цяперашні час медыкі. Зараз у Гродне ёсць 34 вакансіі медыцынскіх сясцёр. Праўда, заробак – ад 375 рублёў. У некаторыя аб'явах абяцаюць і па 500. І толькі ваенны медыцынскі цэнтр гатовы плаціць за працу медсястры 800 рублёў.

Не нашмат больш ацэньваюць і работу дактароў. Заробак у гарадскіх паліклініках – ад 500 рублёў. Самая прывабная прапанова ад Медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі – ад 900 рублёў.

Традыцыйна сярод прапаноў ад цэнтра занятасці пераважаюць такія спецыяльнасці, як кіроўцы, будаўнікі, слесары, токары, інжынеры, менеджары... Крыўдна стала за грамадскае харчаванне – у спісе толькі адна прапанова для афіцыянта з заробкам 500 рублёў. Гэта галіна вельмі адчувальна пацярпела падчас эпідэміі.

Хаця не ўражвае і заробак машыніста механічнага катка – 375 рублёў, повара ў яслях-садку – 281 рубель, калькулятара ў той жа ўстанове – 188 рублёў, швачкі ў гуманітарным каледжы – 188 рублёў.

Толькі ў пяці школах патрэбны настаўнікі. Выкладчыкам матэматыкі і фізкультуры прапаноўваецца 700 рублёў, а пачатковых класаў – 500.

Паводле звестак Белстата, сярэдні заробак у Гродзенскай вобласці складае 1018,4 рубля. Аказалася, што сярод прапанаваных больш як тысячы працоўных месцаў такія лічбы пазначаны толькі ў 15 вакансіях: энергетык, бухгалтар, начальнікі вытворчасці і аддзелаў, машыністы, інжынер і трактарыст.

Дарэчы, у сувязі з пандэміяй патрапіць на прыём да спецыяліста цэнтра занятасці ў Гродне можна толькі па запісе.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

КАНФЛІКТ

# За 84 мільёны долараў можна і пасудзіцца

*Як стала вядома, Беларусь усё ж будзе дабівацца кампенсацыі ад літоўскай кампаніі Orlen Lietuva ў суме 84 мільёны долараў за выпампаваную з літоўскага ўчастка нафтаправода "Дружба" нафту.*

Паводле інфармацыі агенцтва BNS, Вярхоўны суд Літвы днямі прыняў рашэнне аб незадавальненні апеляцыі аператара беларускага ўчастка "Дружбы" ААТ "Гомельтранснафта Дружба".

З такім вердыктам беларускі бок не пагадзіўся і будзе ў чарговы раз звяртацца з апеляцыяй.

**Зінаіда КАНЦАВАЯ.**

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО…

# На лаўцы падсудных – Вікторыя Авяр'янава

Сёння ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска пачынаецца разгляд крымінальнай справы аб ухіленні ад уплаты падаткаў ЗАТ "Інтэкс". Кіраўніком гэтай фірмы з'яўлялася Вікторыя Авяр'янава, дачка збеглага за мяжу алігарха, які валодаў аўтарынкам у Малінаўцы, што на ўскраіне Мінска, і шэрагам іншых бізнесаў. Падсудная была аб'яўлена ў пошук, і яе затрымалі ў Маскве, а затым экстрадзіравалі ў Беларусь.

Паводле інфармацыі следчых, устаноўлена, што закрытае акцыянернае таварыства недаплаціла ў бюджэт падаткаў на суму 892 тысячы рублёў.



У межах гэтай крымінальнай справы вынесена пастанова наконт прыцягнення ў якасці абвінавачанага таксама Юрыя Авяр'янава, але ён вось ужо некалькі гадоў пражывае на тэрыторыі Германіі, і нямецкае правасуддзе пакуль не прыняло рашэння наконт яго экстрадыцыі ў Мінск.

**Вера СІДАРЭНКА.**

ДАЛЁКАЕ-БЛІЗКАЕ



Сяргей НАВУМЧЫК,
дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання

# 1995 год: невыпадковы рэферэндум

Учора споўнілася 25 гадоў з дня правядзення ў Беларусі першага рэферэндуму пасля таго, як прэзідэнтам стаў Аляксандр Лукашэнка. На агульнанароднае галасаванне былі вынесены пытанні аб інтэграцыі з Расіяй і аб праве прэзідэнта распускаць Вярхоўны Савет у выпадку парушэння ім Канстытуцыі.

Вядома ж, плебісцыт быў арганізаваны невыпадкова. Гэта і імкненне Лукашэнкі дагадзіць старэйшаму пакаленню, ветэранам ды і ўсім тым, хто настальгіраваў па камуністычных часах. Гэта і жаданне палітычна знішчыць сваіх галоўных апанентаў – Беларускі Народны Фронт.

Асабісты ж палітычны інтарэс Лукашэнкі, як потым пацвердзілі людзі з ягонага тагачаснага бліжэйшага атачэння, палягаў у дасягненні найвышэйшай пасады ў Крамлі – праз далучэнне Беларусі да Расіі (адсюль і інтэграцыйныя ініцыятывы 1996–1997 гадоў). Для гэтага трэба было максімальна «разбеларусіць» Беларусь, зрабіць яе падобнай да Кастрамской, Саратаўскай ці Навасібірскай абласцей, пазбавіць уласнай гісторыі. І, вядома ж, мовы.

Мара пра Крэмль не спраўдзілася (Лукашэнку раскусілі Чубайс ды іншыя “маладыя ваўкі”, што стаялі побач з Ельцыным). Але вынікі рэферэндуму зрабіліся для нацыі не столькі карыснымі, колькі разбуральнымі.

І я маю на ўвазе нават не роспуск Вярхоўнага Савета ў 1996-м і не падпісаныя адна за адной дамовы з Расіяй, якія зацягнулі пятлю на шыі беларускай незалежнасці (у чым мы пераканаліся зусім нядаўна, калі ўрад Лукашэнкі не асмеліўся распавесці пра патрабаванні Масквы нават дэпутатам парламента).

Гэта быў магутны ўдар па тым, што прынята называць нацыянальнай годнасцю.

Калі Лукашэнка крычаў (менавіта крычаў, не казаў) «Этому БНФу только бы флажки, а кто будет заниматься экономикой?», ён цудоўна разумеў вартасці эканамічных праграм Фронту, высока ацэненых міжнароднымі экспертамі, але яшчэ лепей ён усведамляў значэнне сімвалаў.

Ён, як былы афіцэр, ведаў закон: калі вайсковая часць губляе сцяг – яна расфарміроўваецца. Бо сцяг – гэта сімвал таго, што ў характарыстыках камандзіраў (ды, між іншым, і спартсменаў) фармулюецца як «воля да перамогі».

Вайсковец можа быць выбітным тактыкам, геніяльным інтуітам, мець здольнасць з аднаго погляду на карту, улічваючы размяшчэнне дывізій і армій, іх насычанасць, рэльеф мясцовасці, выбудаваць найбольш выйгрышную тактыку і стратэгію дзеянняў. Але калі ў яго няма вось гэтай якасці – імкнення да перамогі – ён можа дарасці да начальніка генштаба, але ніколі не будзе камандзірам дывізіі.

Змена сімволікі, асвечанай крывёю пакаленняў, была нацыянальнай знявагай (прычым і літаральнай – разарванне сцяга Іванам Ціцянковым на даху адміністрацыі). Якую – ведаў Лукашэнка – даведзены да галечы народ збольшага праглыне. Ну, а тыя тысячы, што выйдуць пратэставаць, можна задушыць сілай.

Рэферэндум 1995 года зламаў хрыбет нацыі – я не магу знайсці іншага параўнання. Пасля такога можна жыць, але не паўнавартасна.

І калі вяртанне сцяга і герба гіпатэтычна можа адбыцца ў адзін дзень праз рашэнне Канстытуцыйнага суда альбо дэмакратычна абранага прэзідэнта (на падставе непрызнання легітымнасці), дык з беларускай мовай усё будзе значна цяжэй.

Для вяртання ў 1993 год, калі 1 верасня 80% першакласнікаў пайшлі ў беларускія класы, спатрэбяцца не адзін і не два гады.

Так, маюць рацыю тыя, хто кажа, што мова ніколі не знікне, калі застанецца хаця б толькі адзін яе носьбіт. І нават калі не застанецца носьбіта – дзясяткі, сотні такіх «мёртвых» моў існуюць. Да іх раз на паўстагоддзя дакранаецца нейкі навуковец, каб зрабіць дысертацыю – і зноў забыць на паўстагоддзя. Але гэта невялікае суцяшэнне. Лаціна якраз не можа быць прыкладам, бо «мёртвую» лаціну вывучаюць непараўнальна больш людзей, чым беларускую мову ў 9,5-мільённай краіне.

У Беларусі вельмі цяжка атрымаць сярэднюю адукацыю на дзяржаўнай беларускай мове, у абласных цэнтрах такіх школ увогуле няма.

У краіне Скарыны – аднаго з самых адукаваных людзей Еўропы свайго часу, партрэт якога я бачыў у Падуанскім універсітэце адразу за кафедрай Галілея, – немагчыма атрымаць вышэйшую адукацыю на дзяржаўнай мове. Няма і нацыянальнага ўніверсітэта.

13 мая я паглядзеў тэлеканал «Беларусь-24». За 45 хвілін (у якія ўвайшла і галоўная праграма навін) я пачуў толькі расійскую мову і некалькі фраз на фарсі (у сюжэце пра іранца, які жыве ў Беларусі і, сярод іншага, хваліць беларускі народ за адсутнасць нацыяналізму; вось гэта праўда – нацыяналізму ў тым разуменні, якое мае на ўвазе госць, у Беларусі не было ніколі).

Актывісты нацыянальнага руху ды супрацоўнікі праваабарончых арганізацый могуць мне сказаць, што зусім яшчэ нядаўна сітуацыя была нашмат горшая – за беларускую гаворку міліцыя магла затрымаць, а часам і збіць.



**Гістарычны момант: Іван Ціцянкоў ставіць аўтограф на сарваным з будынка адміністрацыі і разарваным на кавалкі бел-чырвона-белым сцягу.**

Але мне расказвалі, як перад адным афіцыйным мерапрыемствам прадстаўнік начальства папрасіў арганізатара не даваць слова актывісту ГА “Таварыства беларускай мовы”, бо той «явно будет говорить на белорусском языке».

Прыязджаючы ў Віцебск, я нідзе не чую ніводнага беларускага слова (за выключэннем актывістаў апазіцыі і ТБМ). Шмат хто з маладых папросту не ведае значэння беларускіх слоў – яны месяцамі не чуюць ніводнага беларускага слова.

Нідзе.

...Але ёсць адзін сюжэт, нібыта наўпрост не звязаны з Беларуссю, які я ўпершыню пачуў у 1996 годзе ў Празе, калі мы з Зянонам Пазьняком ішлі каля нацыянальнага тэатра. У XIX стагоддзі чэхі сабралі грошы, каб у анямечанай Празе пабудаваць свой, чэшскі, тэатр. Гэта быў грандыёзны праект – і ў архітэктурным, і ў сучасным – пераносным – значэнні гэтага слова. Грошы збіралі год, будавалі яшчэ даўжэй. Нарэшце ўзвялі тэатр – прыгожы, сучасны, у адпаведнасці з апошнімі дасягненнямі сцэнічнай тэхнікі.

А праз некалькі дзён тэатр згарэў. Цалкам.

І чэхі… ізноў сабралі грошы і на тым жа месцы пабудавалі новы тэатр.

Пазьняк падаваў мне гэта як прыклад веры, як прыклад перамогі нацыянальнай годнасці, нацыянальных памкненняў над, здавалася б, непераадольнымі знешнімі абставінамі. І прыклад таго, на што здольная нацыя, калі ў яе ёсць мэта. Ці, як кажуць у войску, – «прага да перамогі».

Я слухаў гэты расповед Пазьняка, а пра сябе думаў: так, вядома ж, прыклад добры, але да нас ён ну ніяк не пасуе. Чэхам не трэба было змагацца за чэшскую мову.

Пазьняк не ўлічыў майго тагачаснага слабога (лепей сказаць – ніякага) ведання чэшскай гісторыі.

Бо інакш ён сказаў бы, што на прэм’еры каля сцэны стаялі адмысловыя людзі з транспарантамі, на якіх змест таго, што на сцэне спявалі па-чэшску, быў перакладзены на нямецкую – у зале амаль ніхто з чэхаў не разумеў чэшскай мовы.

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Александр Радьков написал мемуары

*Книга экс-помощника президента, бывшего первого заместителя главы Администрации президента, экс-министра образования Беларуси **Александра Радькова** вышла в минском издательстве «Мастацкая літаратура».*

*«В Беларуси редко издаются книги, авторами которых являются политики, высокие государственные деятели,* – говорится в предисловии. – *Поэтому, видимо, особенно интересной кажется в этой связи книга Александра Радькова (напомним: бывшего министра образования страны, первого заместителя главы Администрации Президента Республики Беларусь, председателя Общественного объединения «Белая Русь») «Дискретный подход к наблюдению жизни». Серия, в которой вышла книга, – «Люстэрка жыцця». Кстати, автор еще и доктор физико-математических наук, известный в Беларуси и за ее пределами математик. Поверьте, книга «наблюдений жизни» Александра Радькова читается на одном дыхании!»*

*«Мне видится, что моя коллекция историй многим людям пригодится – для лекций, для подготовки докладов и выступлений, для выработки своего стиля поведения, руководства,* – анонсирует свою книгу сам Радьков. – *В силу своих служебных обязанностей мне посчастливилось работать, общаться с учеными, писателями, артистами, художниками – все эти люди нестандартные, мыслящие интересно, часто вообще необычно. И они добавили россыпь историй».*




Про название книги Радьков пишет так: *«В советские времена в вузах профессиональное математическое образование базировалось в основном на изучении непрерывных процессов. Однако в жизнь решительно вошли законы квантовой механики с их вероятностными подходами, потом пришла всеохватывающая компьютеризация и потребовалась теория алгоритмов, теория игр, математические методы в экономике. На первый план стали выходить методы дискретной математики... Вот и мои истории – это жизнь, но не непрерывно, а дискретно. Так и определилось название книги».*

Рассказала про книгу Александра Радькова и его дочь **Юлия Перцова**.

*«Я всегда слушаю папу с упоением,* – говорит она. – *И не только я... Как только собираемся вместе нашей многочисленной семьей, тут же происходит негласное соревнование: кто быстрее «захватит» папу (мужа, дедушку, тестя) в свой плен, чтобы поговорить, обсудить или просто послушать. В итоге же все равно обступаем его все! И однажды папа решил записывать все свои истории. Так родилась эта книга!*

*Работа над «Дискретным подходом...» скрасила мою беременность. Что интересно, в этой книге лишь малая часть папиных «запасов». Уверена, будет продолжение!»*

**Вера ВИР.**

ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

Александр Радьков родился 1 июля 1951 года в д.Вотня Быховского района Могилевской области.

В 1973 году окончил Могилевский государственный педагогический институт. Доктор педагогических наук, профессор.

Работал ассистентом, старшим преподавателем, доцентом, заведующим кафедрой алгебры и геометрии Могилевского государственного педагогического института имени А.А.Кулешова. С 1990 года – проректор по учебной работе, потом – первый проректор Института Кулешова, ставшего университетом, в 2001–2003 годах – ректор.

Министром образования назначен в 2003 году.

При Радькове было введено централизованное тестирование при поступлении в вуз, десятибалльная система, а в школах ввели деловой стиль одежды.

Награжден медалью «За трудовое отличие». Возглавлял общественное объединение «Белая Русь».

На президентских выборах 2010 года возглавлял предвыборный штаб Александра Лукашенко. По итогам кадровых перестановок после выборов назначен первым заместителем главы Администрации президента.

20 декабря 2014 года глава страны назначил Александра Радькова помощником президента Республики Беларусь.

19 мая 2015 года президент Беларуси Лукашенко освободил Радькова от занимаемой должности по состоянию здоровья.

*«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info*
*в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo*

АРТ-ЖЫЦЦЁ

# «Ноч музеяў» у Гістарычным надыдзе ўсё роўна

Музейная цішыня – тое, што заўсёды так ахоўвалі збіральнікі каштоўнасцяў усяго свету, – зараз становіцца ледзь ці не галоўным іх ворагам. Народ на самаізаляцыі, музеі пустуюць, яны быццам закінуты без людзей. Але забываць пра айчынныя скарбніцы мы ўсё-такі не павінны: пандэмія не вечная. Таму Нацыянальны гістарычны музей, нягледзячы ні на што, праводзіць у гэтую суботу «Ноч музеяў» – вядома, у анлайн-фармаце. У прамым эфіры на відэасэрвісе VOKA з яго залаў будзе транслявацца беларуская рок-опера «Чарадзей» вядомага кампазітара Рамана Арлова. Яна расказвае пра самую знакавую частку беларускай гісторыі: барацьбу Усяслава Чарадзея за незалежнасць першай беларускай дзяржавы – Полацкага княства.

Гэты эксклюзіўны музычна-тэатральны праект упершыню быў паказаны ў Белдзяржфілармоніі яшчэ ў 2016 годзе, а потым больш за дзесяць разоў – на іншых пляцоўках сталіцы, а таксама падчас правядзення ў Мінску Другіх Еўрапейскіх гульняў. Цяпер для акустычнай анлайн праграмы з гістарычнага музея музыканты Кацярына Поцюс і Уладзімір Сцепанкоў выканаюць асобныя нумары. Шматкамерная мастацкая здымка высокай якасці дазволіць кожнаму гледачу ўбачыць усё з розных ракурсаў. Затым трансляцыя працягнецца з панадворка гістарычнага музея – там адбудзецца начны канцэрт. Прамы эфір 16 мая будзе даступны ў мабільным дадатку **VOKA** або на сайце **voka.tv** з любой прылады і ў сетцы любога аператара Беларусі і іншых краін свету без аўтарызацыі.

**Кірыл БУБНОЎ.**

РЭГІЁН

## Прамыя трансляцыі з касцёла – кожную нядзелю

*Пачынаючы з 17 мая штотыдзень гродзенскі гарадскі тэлеканал будзе трансляваць богаслужэнні з Фарнага касцёла Гродна.*

Робіцца гэта для таго, каб прадаставіць магчымасць веруючым людзям памаліцца, не наведваючы шматлюднага месца. Трансляцыі будуць адбывацца кожную нядзелю ў прамым эфіры ў 15 гадзін, а таксама на YouTube-канале гродзенскага тэлебачання.

Дарэчы, гарадскі тэлеканал ужо праводзіў прамыя трансляцыі як з каталіцкага, так і з праваслаўнага храма падчас велікодных святаў.

## Выключылі і зноў уключылі

*З 12 мая ў Гродне дазволена ўключэнне сістэм ацяплення ў рэжыме працеплівання дзіцячых дашкольных, лячэбна-прафілактычных, медыцынскіх устаноў. Аб гэтым паведамляецца на сайце Гроднаэнерга.*

Уключэнне сістэм ацяплення адбываецца ў сувязі з пісьмовым зваротам на падставе ліста да адпаведных службаў Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта.

У жылых дамах ацяпленне не ўключаецца, хаця многія гараджане ў гэтыя халодныя дні мараць аб тым, каб цяпло вярнулася ў кватэры.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

КРИМИНАЛ

## Скрывался с чужими деньгами более 10 лет

*Прокуратура Советского района г.Минска изучила и направила в суд уголовное дело в отношении 49-летнего К., которому инкриминированы подстрекательство к даче взятки и мошенничество в особо крупном размере.*

Как сообщает служба информации прокуратуры города Минска, установлено, что обвиняемый в период с 2005-го по 2008 год обманным путем получил от граждан более 90 тыс. долларов США и 193 млн неденоминированных рублей. Деньги предназначались якобы для «решения вопросов» о вступлении в кооператив и участии в долевом строительстве многоквартирного жилого дома в Минском районе.

В частности, К. утверждал, что выступит в роли посредника и передаст деньги должностным лицам исполкома и председателю ЖСК «А.», чтобы те «уладили все дела». В действительности он изначально не намеревался исполнять принимаемые на себя обязательства, а полученными средствами распорядился по своему усмотрению.

Уголовное дело в 2009 году возбудило УВД администрации Советского района г.Минска. Однако на момент принятия этого решения К. выехал для проживания в Литовскую Республику.

В феврале 2020 года по запросу Генеральной прокуратуры Беларуси он был выдан для привлечения к уголовной ответственности.

Всего в ходе предварительного следствия установлены 17 лиц, которые передали деньги обвиняемому. Вину в инкриминированных преступлениях он не признал.

После проверки материалов уголовного дела в прокуратуре пришли к выводу об обоснованности обвинения, объективном и полном исследовании обстоятельств преступлений, согласились с квалификацией содеянного по ч.5 ст.16, ч.2 ст.431 и ч.4 ст.209 Уголовного кодекса Республики Беларусь.

Уголовное дело находилось в производстве Советского (г.Минска) районного отдела Следственного комитета.

Ранее избранную по отношению к К. меру пресечения в виде заключения под стражу прокурор оставил без изменения.

